ANDREJ ZIAZIULA
(Ks. Al. Astramowič)

# Z RODNAHA ZAHONU

**Zbornik wieršaŭ**

*Z pradmowaj Ad. Stankiewiča
ab žyćci, tworstwie i dziejnašci
A. Z i a z i u l i
ŭ 10-yja ŭhodki śmierci jaho.*

WLNIA — 1931.

# ЛЕТНІ КРАЯВІД З АСЬНЕЖАНАЙ МАГІЛАЙ

**З Віцебску я паехаў у Сянно. Там пахаваны Андрэй Зязюля – беларускі ксёндз і паэт Астрамовіч. Памёр ён у 21-м годзе, меўшы веку 42 гады. Я ехаў і думаў: чаго памёр? І не стары яшчэ быў, І не ад голаду. Захварэў, мабыць, і памёр...**

Пры саветах Зязюлю замоўчвалі доўга, бо ксёндз. І нікога не цікавіла, што ксёндз гэты – зь сялянаў, на простай мове казаньні прамаўляў ды вершыкі складаў.

А можа й добра, што памёр? Хоць гвалту ў старасьці не зазнаў ад мяйсцовых хунвэйбінаў. З ксяндзамі па гэты бок мяжы разьбіраліся люта. Не ратавала й беларуская мова. Ксёндз Сак таксама вершыкі па-беларуску складаў. Найперш змусілі адмовіцца ад сану, а пасьля ўсё адно забілі. Зьліквідавалі.

Вось і сумняваесься, ці варта было чалавеку жыць далей.

Далей – ўсё у крыві.

А зямля ўсмоктвае, і нічога. Жывем. Хоць бы што.

Але ж нельга ўхваляць сьмерць бліжняга. Нават ад спачуваньня. Мо' й выжыў бы як-небудзь. Выкарабкаўся. Уцёк скажам у Польшу ці ў Латвію. Зьехаў бы у Кітай, як ксяндзы Цікота і Германовіч. Праўда, і там іх дасталі, кітайскія камуністы. Вярнулі у савецкія лагеры. І ўсё адно... Кожны павінен прайсьці свой шлях, які б ён ні быў, цяжкі ці лёгкі. Таму няма чаго шкадаваць. Яшчэ невядома, што з намі ўсімі будзе праз тры гады.

* * *

**За вакном пасажыркі між тым – дзіўныя краявіды. Вітэбскія пагоркі ды лагчыны. Нешта сьпее-жаўцее на невялікіх палёх. Жыта ўжо, мабыць, пажалі. А як выразна ўсё, як акрэсьлена! Цёплыя жоўтыя палі й аксамітныя ласкавыя лясы, і сіняе неба зь белымі іскрыстымі аблокамі. Прыгожа як, пане! Цывілізацыя – чалавечае пакараньне. Сумна прызнаваць, але з-за матэрыяльных дабротаў губіцца душа чалавечая. Душачыся ў гарадох, забываемся на прыгажосць, хараство.**

Я гляджу, – за шыбкаю зьмяняюцца чароўныя явы. І тут бы застаўся жыць, і тут. Слухаю адным вухам родную сваю гаворку, і дзівацкая ўсьмешка кладзецца на мае вусны. Добра ж як, добра! І які д'ябал наслаў на гэтую зямлю калгасы, адняўшы яе ў людзей, хто змусіў дзяцей іхніх "зачігірікаць"? Шчасьлівы чалавек не заўважае свайго шчасьця. Толькі згубіўшы, пачынае разумець, што меў і што страціў.

Вялікая, ледь бачныя краі, лагчына, хавае ў сваім густым кустоўі цёмную рэчку. І мэліярацыя не зачапіла, – думаю я, – не напаскудзіла. Жывуць сабе, як і жылі. Хоць і ня так, вядома, але бегма й не прыкмеціш.

Зімою тут ўсё заносіць сьнегам. Няма гэтых яркіх зіхоткіх колераў. Ёсць толькі сьнег, сутонлівае шэрае неба, размытыя абрысы ўсяго далекага й поўная цішыня. Можа, толькі ваўкі, ледзь чутныя, выюць.

У такі час, у студзені, і памёр Зязюля.

У вырай трэ' было ляцець. Куды вочы глядзяць, у вырай. Чаго ж ён ўсё-такі памёр? Можа, гішпанка ці тыфус?.. А куды ўцякаць? Усё вакол сваё. І народ, і зямля Ашмянская, адкуль ён родам, падобныя да гэтых людзей і мясьцінаў і не адрозьніш.

У сябе жыў, у сябе й памёр.

* * *

**Мы прыяжджаем на пляц. Тут аўтобусная станцыя, крамкі, пыльныя местачковыя ліпы вакол пляцу й пасярэдзіне. Бабулькі прадаюць яблыкі, а два дзяды каля штыкетніку канторы з аднае пляшкі пацягваюць віно. Горача, думаю я.**

"Добры дзень!" Адказалі, зь цікаўнасьцю паглядаючы, маўляў, чаго гэта ён? Я патлумачыў: шукаю мейсца, дзе стаяў касьцёл. Ведаю ўжо, што разбурылі. Мне ахвотна падказалі, пашкрэбваючы сівую шчэць на чырвоных тварах, абцёршы перад тым вільготныя раты. Паказалі пустку на пляцы. "А дзе хавалі ксяндзоў?"

"У касьцёле, у самым касьцёле". "І што ж ?" – запытаўся я ужо ведаючы, што. "Узарвалі. Арнаты зь мерцьвякоў парасьцягвалі дзеці." "А які быў касьцёл?" Я ня ведаў, што яшчэ можна спытаць. "Высокі такі" – адказаў адзін. "Стары", – дадаў другі. "А могілкі каталіцкія ёсць?" "Ёсьць", – паказалі мне на вуліцу ў самым канцы пляцу.

На мейсцы касьцёлу засталіся адно меткі ад былых падмуркаў – зраўняныя зь зямлёю рады чырвонае цэглы. І не будуюць тут мабыць таму, што баяцца чарадзейнае сілы моцных падмуркаў.

Рассыпалі твае костачкі, і сьледу не засталося, – думаў я, ходзячы па цагляных радах і прагаворваючы "Ойча наш". Не ў жыцьці, дык па сьмерці, – усё адно дасталі. Хай хоць цяпер моляць Бога, каб ён даравў ім іхнія грахі.

***

**Побач з касьцёлам, якога няма, стаіць абсаджаны з усіх бакоў спарудкамі ды прыбудоўкамі кавалак былога кляштару.**

"Езус пахвалёны!" – пасьміхнуўся я другому паверху, беламу й чыстаму наўзьдзіў, з акуратнымі баракальнымі гзымсамі. Першага паверху за рознай драбязою амаль не відаць. Па-ахламонску выглядае бляшаны, у рудых плямах дах. Адно другі паверх трохі суцяшаў, супакойваў. Напэўна, там хадзіў наш паэт, магчыма, спаў; Богу маліўся перад сном. У думках я прымацаваў паміж вокнамі пасярэдзіне бронзавы барэльеф зь Зязюлевым профілем і палез у чорную яміну з камунікацыямі, што вялі да кляштару. З тлустае зямлі выкалупнуў кавалак зялёнае кафлі ды глінянае донца чаркі – на памяць. Вылез і пайшоў туды, дзе бліскала сіняя вада.

Пакуль ішоў, думаючы, што, можа, жывыя яшчэ людзі, якія памятаюць паховіны "простага" ксяндза. Ішоў па грэблі. Празрыстае рэчка. дно відаць, бегла напрасткі да вялікай вады, а я дабіраўся дарогаю. Насустрач крочыла зь вязанкай боханаў за плячыма старая. Спытаў у яе пра каталікоў – ня ведае яна, хто застаўся. І Зязюлю ня памятае. Сказала толькі, што касьцёл, перарабіўшы на царкву, былі адчынілі ў вайну, а пасьля ізноў зачынілі.

Куды ж падзеліся каталікі? – падумаў я, зварочваючы з грэблі па сьцежцы налева.

Праз колькі мэтраў рэчка наблізілася да мяне, і мы пайшлі разам у засені вербаў, і шкло тут ніхто ня кідае, ня сьмеціць, – глядзеў я на рэчачку-ручаіну, калматую ад водарасьцяў. Блікі сонца ласкава краналі яе ільсьняную паверхню. А прыгробся б сюды які бульдозер, зрабіў бы мэліярацыю – праз пальцы рэчачку можна было б прапусьціць, калі б зусім ня высахла. Не дабраліся яшчэ палескія мехкалёны да Віцебшчыны.

І вось адступілі вербы, скончыліся людзкія агароды, а рэчка саскочыла сабе ў сінюю роўнядзь ім згубілася ў ёй. Далёка насупраць - другі бераг. Паміж невысокімі ўзгоркамі ляжыць ужо колькі тысяч гадоў сіняя лінза вады. Сьвежасьцю й вечнасьцю патыхнула на мяне. Вада, як і лес, ды яшчэ неба разам зь імі, падказваюць чалавеку ягонае мейсца ў гэтым сьвеце.

Мабыць, і ён прыходзіў сюды. Дзякаваў Богу за зямную прыгажосьць, стаяў ў захапленьні, як зараз стаю я... Ад касьцёла, паўз ручай, гэтым жа шляхам... Калі, вядома, ня быў ужо зусім хворы

Я сеў на траву й глядзеў на гусей, што ярка-белымі плямамі рухаліся па берагавым аксаміце, на дзяцей, што калупаліся ў пяску на беразе каля перавернутага чаўна. Ластаўкі ціўкалі навокал, а над возерам, нібы чыесьці душы, лёталі белыя кірлі.

Файнае гэта мястэчка - Сянно.

* * *

Я пашыбаваў назад, паўз пляц, разбураны касьцёл і кляштар, па вуліцы, якую паказалі мне дзяды. Нейкае спадзяваньне кволілася, - а раптам гэты "просты" ксёндз захацеў легчы разам са сваімі парахвіянамі? Прайшоў каля ўлады й каля пошты, каля банку й каля крамы. Местачковыя хаты - гэта ня вёска. І дзьверы не туды, і кветак болей, і на падворку большы парадак.

Я цягнуўся па гарачым асфальце ды згадваў, як там Зязюля пісаў пра мястэчка. Ня ўздумаў ані радка. І толькі цяпер, за сталом, выцягнуўшы змацаваныя сашчапкаю аркушыкі, знайшоў вершык, пра які думаў той парою ў Сяньне:

*Цераз шлях пачтовы*
*Палыскнула рэчка...*
*Відны ўжо будовы*
*Роднага мястэчка.*

*Накрыж паляцелі*
*Вуліцы ў будынку*
*І касьцёл у белі*
*Нідалёка рынку.*

*Чутачку ў аддалі*
*Цэрква, сынагога*
*Контуры ўказалі*
*І красы німнога.*

*Там вучэльня-школа*
*Почта-ліставая,*
*Карчма ды стадола,*
*Воласьць мейсца мае.*

*Вунь пакой прыёмны,*
*Фэльчар ды аптэкар,*
*Магазін - склад скромны*
*Усялякіх лекаў.*

*Ля званіцы - брамы,*
*Ту-ж пры агароджы*
*У рад пасталі крамы*
*Сьцерагчы Дом Божы.*

*Журавы ад студні*
*Высунулі дзюбы.*
*У дзень сьвяты ці будні*
*Говар тут нялюбы.*

*Пояць быдло, коні,*
*Абліваюць сьвіньні,*
*Скрып асьверу тоне*
*У гомані і гіне.*

*Ціўкат верабейкі*
*Чуецца у прасторы,*
*Бытцам солад нейкі*
*Ля душы у горы.*

*Міла праехаць*
*Праз свае мястэчка...*
*Тут саломы вехаць*
*Маніць, вабіць рэчка.*

*У мяйсцовым стылю*
*Хаты збудаваны:*
*Іх з сабой злучылі*
*Густыя парканы.*

*Меніцца у воку*
*Места дарагое*
*І тужу здалеку*
*Неяк да яго я.*

Нясьпешнасьць і раўнавага. Вершык псыхічна здаровага чалавека, які любіць свой край і свой народ, і жыцьцё. Я думаю, што добра было б, каб вершы Зязюлі вучылі напамяць ў школе.

Але вось вулка вывела мяне за мястэчка, скінула зь сябе гарачы асфальт і пацягнулася ружоваю стужкай да нябачных паселішчаў. Зьлева ад мяне – яшчэ адно возера. Меншае за першае й не такое прыгожае. Побач нейкія сучасныя жоўтыя кар'еры, заліты асфальтам шлях і яшчэ штосьці, што не кладзецца адразу на вока. А справа ад гасьцінца на ўзгорку – зарослыя могілкі. Сюды я і йду.

Могілкі невялікія. А хавалі каталікоў з усіх ваколіц, пра што гавораць польскія надпісы на крыжах. Я хаджу ад аднае магілкі да другой. Учытваюся. У тутэйшым каталіцтве – частка культуры нашага народу. Не уберажоная, аддадзеная заходнім суседзям. Для "братоў" і з захаду, і з усходу беларускі ксёндз быў страшнейшы за чуму. Мо' таму па вайне ў нас іх амаль і не засталося. Цкавалі адныя й другія. А тых, хто мог бы абараніць, не было.

* * *

Мне заўсёды цікава на старых могілках. Хоць падсьвядомае жаданьне цісьне душу – хутчэй бы пайсьці адсюль, дзе ляжаць мёртвымі столькі людзей. Магчыма, гэта толькі чалавечая ўласьцівасьць – усё хутка забываюць. Прыродная легкадумнасьць дазваляе нам вось так бадзяцца па могілках. Мая маладая істота больш настроеная на разгляд старых каваных крыжоў, чым на думкі пра тых, хто ляжыць пад зямлёю. Праўда часам мне становіцца непамысна, калі мушу таптацца па ледзь прыкметнах капцах... Крыж за крыжам, камень за каменем я перагледзеў старую частку могілак. Надпісу *АСТРАМОВІЧ* не знайшоў.

Я прылег на высокім схіле кладішча, між кустоў, на дробным чабары. Рукі мае былі ў чабары, вочы глядзелі ў сіняе неба, а ў галаве круцілася: вось я ляжу тут, часова пакуль, пабач з маімі землякамі. Якія яны былі людзі – благія, добрыя, любілі гэтую зямлю ці не – іншая справа. Я задрамаў на імгненьне, яднаючыся зь імі і зь зямлёю. Нібы маё цела распусьцілася ў пяску і зьнікла. Толькі ясная, чыстая, не затлумёная мігатлівымі думкамі сьвядомасьць завісла ў цішыні...

Загула на дарозе машына й пабудзіла мяне. Час вяртацца і з могілак, і зь Сянна.

Калі-небудзь я ўсе ж убачу дошку з барэльефам Зязюлі на Сеньненскім кляштары.

**А.Б.**

Andrej Ziaziula
(Ks. Alaksandar Astramowič)

# Z RODNAHA ZAHONU

**Zbornik wieršaŭ**

*Z pradmowaj Ad. Stankiewiča
ab žyćci, tworstwie i dziejnaści
A. Ziaziuli
ŭ 10-yja ŭhodki śmierci jaho.*

WLNIA — 1931.
Wydańnie Ksiandza Jana Siemaškiewiča.

ANDREJ ZIAZIULA
U DZIESIATYJA ŬHODKI
JAHONAJ ŚMIERCI
1921—1931.

*...„Nu dyk ḫraj, maja lira, ḫraj!*
*Miła, žałosna, ščyra...*
*Hraj radzimaj staroncy*
*Ab pryḫožaj wiasioncy,*
*Što jak zoračka jasna*
*K nam idzie dola ščasna"...*

* * *

17 studnia siol. h. minuła 10 hadoŭ ad dnia śmierci biełaruskaha paeta Ks. Alaksandar Astramowiča, jaki pisaŭ swaje wieršy pad mianiuškaj Andrej Ziaziula. Woś-ža z pryčyny hetych uhodkaŭ wydajom zbornik jaho wieršaŭ „Z rodnaha zahonu", jaki papieradžajem maleńkim narysam ab žyćci, dziejnaści i tworstwie paeta. Robim-ža tak zatym, kab ušanawać pamiać biełaruskaha paeta i dziejača, jaki całkom zasłužyŭ na heta i kab prypomnić ab im biełaruskamu narodu, katoraha jon tak horača lubiŭ i katoramu paświaciŭ usie swaje siły.

1. Al. Astramowič radziŭsia 26.XI. (staroha stylu) 1878 h. u drobna-siałanskaj katalickaj biełaruskaj siamji, u siale Nawasiady, Halšanskaj hminy, Ašmianskaha paw.

Wučyŭsia jon u Ašmianskaj pawiatowaj škole, skončyŭšy jakuju pastupiŭ 1905 h. u Katalickuju Duchoŭnuju Seminaryju ŭ Pieciarburzie. Seminaryju skončyŭ u 1910 h. i byŭ paświačany na ksiandza. Pieršuju Imšu św. atprawiŭ u Trabach, Wałožynskaha paw. 2.II.1911 h.

Na Prymicyjnych pamiatkawych jaho abrazkach znachodzim hetki wieršyk:

*„Zabudźciesia, Braćcia, na chwilinu ziamnoje,*
*Maliciesia, Was zaklinaju,*
*Kab hetu achwiaru, što siańnia składaju,*
*Pryniaŭ Boh, jak žertwu ad Noja".*

Budučy ksiandzom, A. Astramowič pracawaŭ u Rakawie, Wałožynskaha paw., u Hannopoli

pad Mienskam, u Śmiławičach, Ihumienskaha paw., u Rubiažewičach, Staŭpeckaha paw., u Abolcach i ŭ Sienno, Mahiloŭskaj hub. Pamior u Sienno 17.I.21. na 43 hodzie žyćcia. Pachawany tak-ža na tamtejšych mohiłkach.

2. Małady Astramowič jašče prad Seminaryjaj byŭ świedamym biełarusam. Uświedamiŭ jaho Ks. Ad. Lisoŭski, susied jaho (z w. Karandy, hm. Krewa), jaki ŭ pieršych hadoch našaha XX stahodździa wučyŭsia ŭ Pieciarburskaj Duchoŭnaj Akademii, dzie sam uświedamiŭsia ad pieršaha pionera sučasnaha biełaruskaha adradžeńnia praf. Br. Epimach-Šypiłły, ad jakoha prywoziŭ na wiosku nieśmiarotnyja „Dudku" i „Smyk" biełaruskaha Patryjarchi Fr. Bahuševiča, a tak-ža prywoziŭ biełaruskuju katechizmoŭku biskupa Danisewiča i Ks. Fr. Budźki i pašyraŭ ich siarod našych wiaskoŭcaŭ.

Moładaść Astramowiča prypała na tyja hady ŭ historyi biełaruskaha narodu, kąli rasiejskaja carskaja palityka była prypuściŭšy badaj najsilniejšy rusyfikacyjny šturm na paniawolenuju Biełaruś. Byŭ heta čas, kali biełarus byŭ niawolnikam nia tolki socyjalna i ekanamična, ale tak-ža i duchowa. Biełaruś — heta byŭ pawodle carskaj palityki „Северо-Западный Край", jaki pawinien byŭ pradusim služyć rasiejskaj imperjalistyčnaj zaborčaj dziaržaŭnaści. Biełarusy kataliki, aprača ahulnaha nastupu na Biełaruś rasiejščyny, adčuwali ciažka nastup relihijny. Rasiejskija ŭłady kaścioły tady časta zabirali na cerkwy i siłaj uwodzili ŭ kascioły rasiejskuju mowu i roznymi sposabami prymušali biełarusaŭ katalikoŭ pryniać kazionnuju prawasłaŭnuju wieru. Dziejełasia heta najbolš jarka ŭ 70 i 80 hadoch XIX staleććia. Małady Astramowič, kali dzieła

swajej maładaści asabista i nia bačyŭ usiaho hetaha, dyk padrosšy čuŭ šmat ab hetym ad starejšych. Byŭ heta čas, kali Biełaruś, zdušanaja Rasiejaj i straciŭšaja paśla niaŭdačnaha polskaha paŭstańnia 1863 h. nadzieju na Polšču, u asobie swajej, časta napaławinu spolščanaj, šlachty, (Fr. Bahuševič, Niesłuchoŭski) radziła dumku ab swaim nacyjanalnym adradžeńni.

Woś hetyja socyjalnyja nastroi, hetaja hramadzkaja atmosfera akružała maładoha Astramowiča i čutkaj jaho natury ŭdzialałasia całkom wyrazna. Jon zmałku adčuwaŭ patrebu pamahčy swajmu narodu wyzwalicca z niawoli i niadoli da lepšaha žyćcia. Ale čym pamahčy jamu i jak? Čutkaja paetyckaja duša jaho na pytańnie heta dała chutki i rašučy adkaz: pastupić u duchoŭnuju seminaryju, stać na służbu Chrystowaj Praŭdzie i Jahonaj sprawiadliwaści, schawacca ŭ zacišša Kaścioła ad hroznaha woka rasiejskaha žandarma, tam śnić sny, snawać plany ab woli Biełarusi i niaści świato u biezpraświetnuju biełaruskuju hłuš.

I heta całkom zrazumieła. Kaścioł tady dla Biełarusa katalika byŭ sapraŭdy adzinym kutočkam, dzie można było prynamsi bolšmienš duchowa astacca wolnym. Sprawa ŭ tym, što rasiejskaja palityka, nastupajučy na Katalicki Kaścioł, ahułam spakojnym wokam hladzieła na jaho, kali jon ščylna łučyŭsia z polskaściaj, ale nijak nie mahła pahadzicca, kali ŭ hetym Kaściele dy pajaŭlalisia dzie rastki žyćcia biełaruskaha narodnaha. Takim čynam polskaść u kaściele, jakoj zapanawać tam pamahła rasiejskaja niaŭdałaja palityka, dla biełarusaŭ katalikoŭ mahła służyć i časta służyła

sapraŭdy, zwyčajnym prykryćciem ad palicyjnych atakaŭ rasiejskaj ułady.

Dyk woś małady Astramowič, idučy za hołasam swajho duchowaha pokliku i paddajučysia socyjalnym upływam swajho času, pastanawiŭ słužyć narodu z wiaršyn nawuki Chrysta, paświačajučysia słužbie Jahonaj.

Tak pastanawiŭ Astramowič. Ale pajści pa zadumanym šlachu synu niezamožnaha sielanina nia było lohka. Šukajučy, widać, maralnaj i materjalnaj apory ŭ swaich pačynańniach, Astramawič niejkim čynam natrapiŭ na ks. M. u Wilni, wiedamaha nienawiśnika biełaruskaha adradžeńnia. Ksiondz hety nie adčuŭ dušy paeta, ničoha nie pamoh i adniośsia da jaho, kab nie skazać bolš, całkom niaŭważna. Rodny brat Astramowiča, na majo da jaho zapytańnie ab žyćci paeta ŭ ks. M., adpisaŭ dasłoŭna: „mahu tolki skazać toje, što apieka henaha ksiandza nad maim bratam była „apiekaj skacinnaj", jak heta piša Bahuševič u swajej „Dudcy".

Sapraŭdy, widać, było tak. Wiedajučy ab znajomstwie Ziaziuli z ks. M., ja asabista ŭdaŭsia da jaho, prosiačy ab patrebnyja mnie ab paecie wiestki. Na ŭsie maje zapytańni pačuŭ ja ad henaha ksiandza adzin charakterny adkaz: „Astramowicz był u mnie, to dureń jakiś"...

Tymčasam padaśpieła wajskowaja słužba i Astramowič apynuŭsia ŭ rasiejskaj žaŭnierskaj kazarmie. Dumki adnak swajej ab duchoŭnickim stanie nie pakinuŭ i tut. Paśla wojska spatykajem užo Astramowiča klerykam uspomnienaj Pieciarburskaj seminaryi.

Heny-ž ks. M. pamiataŭ ab Ziaziuli i ŭ Pietrahradzie, dzie mieŭ jon upływy i dzie razam z padobnymi sabie staraŭsia nie dapuścić

jaho da świaščenstwa. Kali-ž ksiandzu M. hetaha nie ŭdałosia i Astramowič staŭsia ksiandzom, tady jon, rabiŭ zachady, kab duchoŭnaja ŭłada ks. Astramowiča naznačyła na samy paŭnočny ŭschod Sibiry na... Kamčatku! Pryčyna hetkaj nienawiści — biełaruskaść ks. Astramowiča. I tolki dziakujučy zastupnictwu dobrych ludziej, jakija zaŭsiody jość na świecie, zrabić hetaha nie ŭdałosia.

3. Charaktaram Astramowič byŭ ščyry, dziŭna prosty, žywy, zapalny i haračy, zaŭsiody wiasioły, dobry, usłužny, harača-pabožny i dziŭna patryotyčny.

Niekulki rysaŭ da charakterystyki Astramowiča daje nam Kraŭcoŭ Makar u „Бел. Звоне" (16.XII.1921. № 23), u swaim paśmiertnym ab im uspaminie, niekatoryja dumki jakoha tut źmiaščajem:... „Nia chočacca wieryć, što pamior sapraŭdy naš nie stary jašče liryčny piaśniar Andrej Ziaziula...

Mnie dawiałosia pieršy raz spatkacca i paznajomicca z ks. Astramowičam u Miensku ŭ časie niamieckaj akupacyi. Zajšoŭšy adnaho razu ŭ kwateru „Biełaruskaha Pradstaŭnictwa" na Sierpuchoŭskaj wulicy i prywitaŭšysia z tymi, kaho ŭžo znaŭ, ja nie paśpieŭ zaŭwažyć dobra za stolikam nieznajomuju mnie asobu, jak byŭ zaraz-ža joj adrekamandawany...

Ja nia moh, jak naležyć, razhladzieć duchoŭnickaj adziežy ks. Astramowiča i padumaŭ prosta, što jon jaki-niebudź wiaskowy wučyciel. Prosty, ale enerhičny niejki wyraz jaho twaru, wiasioły, mała padobny na duchoŭnicki humar i wiečnaja lohkaja ŭśmieška pry hetkaj-ža lohkaj hutarcy wykazwali niazwyčajnuju niejkuju nieśmiarotnuju maładaść, wialikuju zdolnaść i enerhiju...

Służyŭ ajciec Alaksandar tady ŭ Mahiloŭščynie i kazaŭ mnie, što tam ruch naš raście i macnieje...

Druhi raz na jašče mienš karotki čas my sustrelisia ŭ tym samym Miensku, nia pomniu tolki dzie, ale dobra pamiatuju, jak a. Alaksandar swaim zwyčajnym lohkim tonam dapytwaŭsia ŭ ks. Hadleŭskaha, čamu heta nia wychodzić „Krynica“, wydawać jakuju ks. Hadleŭski tady ŭziaŭsia...

Nia chočacca wieryć, što naša karocieńkaje druhoje spatkańnie z paetam Ziaziulaj było i astatnim.

Strašenny žal achaplaje dušu, kali ŭ haławu prychodzić dumka, što hetki piaśniar naš darahi, jak Ziaziula, skončyŭ swaje pieśni strašenna rana...“

4. Papaŭšy ŭ Seminaryju ŭ 1905 h. naš kleryk užo akazaŭsia nia zwyčajny Astramowič, ale Andrej Ziaziula, paet biełaruski, jaki ŭžo piša biełaruskija wieršy, ale nia wiera ŭ swoj talent, kryjecca z imi i čytaje ich tolki najbližejšym. Urešcie Ziaziula naš nabraŭ adwahi i pasłaŭ swaje wieršy ŭ „Našu Niwu“, dzie jany pieršy raz i byli nadrukawany ŭ 1910 h., a tak-ža ŭ 1911 i 1912.

Najbolš Ziaziula drukawaŭ swaich wieršaŭ u „Biełarusie“ (1913—1915), a tak-ža pakrysie ŭ „Świetačy“ (1916) u „Вольнай Беларусі“ (1917—1919) i ŭ „Krynicy“ (1917, 18, 21, 23), a tak-ža ŭ asobnych knižycach: „Z rodnaha zahonu“ (1913), „Słowa Praŭdy“ (1917) i „Alenčyna wiasielle (1922). Aprača hetaha mnoha wieršaŭ Ziaziuli znachodzicca ŭ rukapisach dahetul nihdzie nie drukawanych: u praf. Br. Epimach-Šypiłły, u ks. A. Saka (Sawiecka-

ja Biełaruś), u Janki Kupały, u ks. L. Chwiećki, jaki na žal, wyjaždžajučy z Pietrahradu pakinuŭ ich u swajho znajomaha.

U skład hetaha zbornika „Z rodnaha zahonu", na wialiki žal, reč jasnaja, nie ŭwajšli wieršy, jakija znachodziacca ŭ ludziej, što žywuć u Sawietach, a tak-ža wieršy: „Našaj Niwie ŭ 7 hadaŭščynu", źmieščany ŭ „Našaj Niwie" z 1912 h. u № 46, wieršy: „Panom prawadnikom", („Вольная Беларусь" 1918, № 4) i „Hutarka Alaksandra i Ściapana" (Вольная Беларусь" 1919, № 20-21), jakich u Wilni razdabyć nam nie ŭdałosia. Ci budzie sudžana kali ŭbačyć świet *usim* wieršam Ziaziuli — zhadać trudna. My zrabili toje, što mahli.

Zbornik wieršaŭ A. Ziaziuli, u jakim źmiaščajem tyja wieršy, jakija nam udałosia sabrać, zawiom „Z rodnaha zahonu". Dumajem, što hetkaja nazowa całkom jamu adpawiednaja, bo j sam paet hetak nazwaŭ swoj pieršy zborničak z 1913 h. dy i wieršy jaho, jak widać z ich źmiestu, wyraśli sapraŭdy na *rodnym zahonie*.

Zbornik „Z rodnaha zahonu" na padstawie źmiestu pamieščanych u im wieršaŭ, dzielim na nastupnyja addzieły: I. Relihijny, II. Narodny, III. Biełaruskaje žyćcio, IV. Biełaruskaja pryroda, V. Nastroi, VI. Roznyja.

5. Andrej Ziaziula — heta wydatny, całkom aryhinalny, biełaruski paet, jaki praz uwahu na źmiest i formu jahonaj tworčaści moža być słušna nazwany „wiaskowy lirnik", jaki zrośsia ŭ wadno całaje z rodnym siałom i biespierastanku budzić jaho ad snu wiekawoha.

*Končyŭ dzied bylinu,*
*Liru ŭžwiesiŭ uznoŭ*
*I budzić z mary-snu*
*Lud wiaskowy pašoŭ.*

Żmiest tworaŭ Ziaziuli — heta pradusim šeraje biełaruskaje žyćcio ŭ rožnych jahonych prajawach, jakoje paet prybiraje ŭ pryhožyja paetyckija formy i jakoje budzić da narodnaj świedamaści.

*Na pakładzie u świronku*
*Napatkaŭ ja lironku,*
*Sto ŭkureŭšy lažała*
*I butwieć pačynała...*
*Hraj radzimaj staroncy*
*Ab pryhožaj wiasioncy,*
*Sto jak zoračka jasna*
*K nam idzie dola ščasna.*

Żmiestam Ziaziulinaj tworčaści służyć tak-ža i biełaruskaja pryroda, jakoj paet udzialaje niamała miesca i jakuju apiawaje z prastadušnaj i sardečnaj lubaściaj.

*Dychanuŭ suchawiej*
*U pahodliwy dzień,*
*Skałychnuŭšy trawicaj niaroŭnaj;*
*U lasku saławiej,*
*Zachawaŭšysia ŭ cień,*
*Zachlipajecca pieśniaj čaroŭnaj.*

Što da formy wieršaŭ Ziaziuli, dyk jana, jak i ichny żmiest, čaruje nas swajej dziŭnaj prastatoj, roznajakaściaj i lohkaściaj; čaruje tak-ža nas wierš Ziaziuli i čyścinioj biełaruskaj mowy, jaje jomkaściaj i miłahučnaściaj.

Wieršy Ziaziuli poŭny ščyraha patryotyzmu, sardečnaj lubowi Biełarusi, i tak-ža poŭ-

ny hłybokaj wiery ŭ lepšuju budučyniu biełaruskaha narodu.

*Staronka miłaja, Ty mnohimi zabyta,*
*Śmat śpić synoŭ Twaich adwiečnym snom!*
*Ziamielka rodnaja, ślaźmi i potam źlita —*
*My da žyćcia z taboj uznoŭ uwaskrasiom.*

*Choć znojdziecca ŭ Tabie wyrodny wałakita,*
*Katoramu Twaja da niespadoby świta*
*I nie adzin pradaść ciabie Iskaryjot,*

*Ale tabie jašče ŭsio-ž, maci siemianita,*
*Sialanie wiernyja, što siejać žyta,*
*A z ich paŭstanie Twoj narod.*

Paezija Ziaziuli nawiejena tak-ža žywym pačućciom relihijnym. Praŭda, matywy dla swaich pieśniaŭ paet biare z akružajučaha jaho sialanskaha bytu i rodnaj pryrody, ale apošniaj pryčynaj, jakaja jaho panukaje ihrać na biełaruskaj liry, — jość Boh, Twarec świetu, jak pieršaja i apošniaja padstawa Krasy i Sprawiadliwaści. Dla Ziaziuli ŭsio biełaruskaje adradžeńnie — heta Božaja sprawa.

*Dyk pasłuchaj-ža bratočak,*
*Hetakaj woś rady:*
*Palubi ty swoj kutočak,*
*Mowu, stroj, abrady,*
*A Stwaryciel naš łaskawy,*
*Što wačej nia zwodzić*
*Z nas, ubačyć twaje sprawy,*
*Ŭ stokrot naharodzić.*

Pry hetym treba adznačyć, što relihijnaje tworstwa Ziaziuli ŭdajecca dobra, kali jon twora niešta aryhinalnaje, niešta całkom swajo, a nie ŭdajecca i wychodzić dawoli słaba, kali jon imituje padobnaje tworstwa polskaje.

Cikawa tak-ža adciemić i tuju rožnicu ŭ relihijnym tworskim pačućci Ziaziuli, jakaja zachodzić miž im i Swajakom.

Ziaziula adčuwaje Boha prosta, časta až naiŭna, pa dziacinnamu, wyklučna sercam, — Swajak-ža nia tolki sercam, nia tolki čućciom, jakoje ŭ jaho bywaje napiata až da krajnaści, ale tak-ža i rozumam, jakim jon uściaž zahłyblajecca až u Božuju istotu i zorka śladzić za tajomnymi prajawami Božaj dziejnaści ŭ suświecie.

Metaj pieśniaŭ A. Ziaziuli — uzbudžany, adrodžany, ščaśliwy biełaruski narod, i wiadzie da hetaj wialikaj mety, pawodle Ziaziuli, tolki aružža ducha: ščyraja luboŭ, haračaja wiera, niepadzielnaja cnota. Hetkim sapraŭdy byŭ jon sam, hetkaha ducha pakinuŭ nam i twory swaje.

*Aświaci naš rozum wieraj,*
*Lhi nadzieju ŭ dušy ŭli*
*I ahoń lubowi ščyraj*
*Ŭ sercach zimnych zapali!*

— molić jon Boha.

Paśla-ž takoj malitwy, paśla takoha dušy swajej nastroju, woś tak piaje jon nam:

*Bušuje chaj bura, wichor chaj złujecca,*
*Chaj wiecier panura zawyje na rečca —*
*Ja rodnaha kraju, što rwiecca da woli,*
*Nia zdradžu nikoli.*
*Chaj srebra, dukaty mnie sypiać pad nohi*
*I skažać: bahaty budź, kiń rod ubohi —*
*Ja plunu z pahardaj, narodu-ž i woli —*
*Nia zdradžu nikoli.*
*Da samaha skonu, usiakim prymusam*
*I sile pryhonu skažu: biełarusam*
*Na wiek astanusia, swajej ŭłasnaj woli*
*Nia zdradžu nikoli!*

Hetak prysiahaŭ piaśniar naš narodu swajmu. Prysiahaŭ i prysiahi światа datrymaŭ. Służyŭ jon narodu wierna nia tolki zwonkaj pieśniaj swajej, ale służyŭ jamu takža i zwyčajnaj šeraj hramadzkaj pracaj, nie zważajučy ni na bury, ni na wichry, jakija złosna hudzieli nad haławoj jahonaj.

6. Sapraŭdy, A. Ziaziula nia tolki paet biełaruski, ale i dziajač.

Budučy ŭ Seminaryi, jon u kružku kaznadziejskim, jaki isnawaŭ siarod seminarystych, dabiwajecca biełaruskaj sekcyi, jakoj sam kiruje. Nabraŭšysia-ž i praktyki i zapału jašče ŭ seminaryi, jon budučy ŭžo ksiandzom, dzie tolki moža, u życci relihijna-kaścielnym karystajecca biełaruskaj mowaj.

Pryčyniajecca Ziaziula takža nia mała da sprawy ŭżywańnia biełaruskaj mowy ŭ kaściele i tworstwam swaim poetyckim. Praz swaje strojnyja relihijnyja wieršy jon pieršy pakazaŭ, što mowa naša całkom zdatnaja da ŭżywańnia jaje ŭ kaściołach i praz heta značna jaje da kaścioła prybližyŭ.

Nie małyja takža zasłuhi pałažyŭ dla narodu Ziaziula, uświedamlajučy jaho nacyjanalna. Usie tyja kutki Ašmianščyny i Wałožynščyny, jak Halšany, Traby, Wišniewa, Baruny, Krewa, dzie časta prabywaŭ Ziaziula, pomniać jaho i siańnia. Nios jon tudy pramień praŭdy, światło biełaruskaj narodnaj świedamaści, jak žywym słowam, tak i praz rodnuju knižku i hazetu.

Ziaziula — heta praŭdziwy idealist, heta mučanik za rodnuju ideju. Hnany polskaj duchoŭnaj uładaj za swaju biełaruskaść z parafii ŭ parafiju, a časta i całkom pazbaŭleny za heta pasady, tulaŭsia biazdomny pa šyrokaj Biełarusi ad tawaryšaŭ da tawaryšaŭ, ad znajo-

mych da znajomych, ad pryjacielaŭ da pryjacielaŭ, nosiačy ŭ haračaj dušy swajej kryŭdu i nikoli niahasnučy žar lubowi da padniawolnaha narodu.

* * *

Minuła ŭžo 10 hadoŭ, jak adyšoŭ ad nas na toj świet A. Ziaziula. Adyšoŭ... a tymčasam ciapier žywiejšy jon, jak raniej, bo ziarnio wiečnaj Praŭdy i Krasy zasiejaŭ jon u dušu našu...

*AD. STANKIEWIČ.*

*Pieśni z rodnaha zahonu,*
*Lijciesia pad strechi*
*Chat, — z wiasiołaha bolš tonu*
*Piejcie dziela ŭciechi.*
*Kab niadola, rospač, hora,*
*Znikli jak zahraju,*
*Kab wiakowaha snu zmora,*
*Sčezła ŭ našym kraju.*
*Kab narod mieŭ bolej wiery*
*Ŭ Boha, bolš nadziei,*
*Kab da ščaścia-doli dźwiery*
*Adčynili kniei.*
*Kab luboŭ niapraŭdzie, źdźieku*
*Krysku pałažyła,*
*Kab z ruk pracy čaławieku*
*Žyć było tut miła.*
*Kab za čyn lubowi, wiery*
*Mieli-b ludzi chleba,*
*A jak projdzie hety šery*
*Wiek, dastali-b Nieba.*
*Nu dyk bolš jašče razhonu*
*I adwahi jmicie,*
*Pieśni z rodnaha zahonu,*
*Skroś žyćcio budzicie!*

## Z PSALMU.

Ščaśliwy, chto ŭ radu błahich nia ŭstupaje,
Chto wybraŭ wuzkuju darohu,
Da nieba jdzie joju, haścincy minaje,
Što ciahnuć da piekła parohu.

Ščaśliwy, chto Bohu na służbu addaŭsia,
Kab ščyra arać Jaho niwu,
Ščaśliwy, chto wiernym wa ŭsim Jamu staŭsia,
Zdaleŭšy naturu laniwu.

Ščaśliwy, chto ŭčuŭšy harotnych stahnańnie,
Pa wuzkaj, ciarnistaj darozie
Pašoŭ z dobraj woli swajej na spatkańnie
Im biednym — i staŭsia ŭ spamozie.

Chto zważyŭ marnotu dačasnaści hetaj,
Pa ścieżcy ciasnoty jdzie śmieła,
Dy złučany wieraj sa świetłaju metaj
Dušu swaju lubić — nia cieła.

Chto jšoŭ pa askołkach prykładam Chrystowym,
Pjučy horki kielich ciarpieńnia,
I kożnuju chwilu pajšci byŭ hatowy
Za praŭdu na żdziek zaślapieńnia.

Chto wypaŭniŭ ščyra prykaz miławańnia,
Jak sam siabie bliżniaha swoha,
Dzialiŭsia z ubohim kusočkam nadańnia,
Uspamohšy ŭ patrebie čym zmoha.

Chto wierny byŭ Bohu ŭ pryzwańni zaŭsiody,
Spačatku da samaj kančyny —
Woś toj tolki wiečnaje warty nahrody —
Być synam niabiesnaj ajčyny.

## SUDZI MIANIE.
(Na ps. 34)

Sudzi mianie
Ty, Boža moj,
Niachaj bliśnie
Twoj Sud z zaroj.

Moj hrešny dziej
Rassudžawaj,
Ad złych ludziej
Mianie ŭkrywaj.

Ty moc maja,
Čom honiš won,
Kali Twoj ja
Złamaŭ zakon?

Čamu ŭwieś wiek
Ŭ wa mnie tuha,
Jak čuju ździek
Ad niedruha?...

Kali z ciabie
Sum wyliju ja
Ŭ cichoj žalbie,
Duša maja?

Kali prydu
Da praŭdy jznoŭ
I ŭpyn znajdu
Ad warahoŭ?

Ty rwieśsia ŭścia-ž
Da ščaścia zor,
Dzie bied niamaš,
Ni złudaŭ, zmor.

Da Boha ty,
Uzdymajeśsia,
Dzie raj światy,
Paciecha ŭsia.

Da Božaha
Jdu aŭtara
Chwalić taho
Niabiesnaha Cara,
 Što moładaść
 Wiasielić mnie
 I moža dać
 Pić čar u śnie.
Chaj ljecca žal
Pad cytry jhru,
Z žyćciowych chwal
Smuhu źbiaru.
 Tabie skažu,
 O Boža moj,
 Žyćcia ŭsiu łžu,
 Z ślazoj cichoj.
U winie swajej
Pakajusia,
Z dušy usiej
Zažalusia.
 Čamu-ž, čamu
 Ty sumnaja,
 Duša ŭsiamu
 Dastupnaja?
Čamu mianie
Trywožyš tak,
Ci-ž nia minie
Žurba nijak?
 Nadzieju miej, —
 Daruje Boh,
 Kab tołki dziej
 Ja wyznać moh.
Zbaŭleńnie ŭ Jom
Mieć budu ja,
Dyk tužyš čom,
Duša maja?

## RAŽANIEC.

Wiačornaja ciemra ziamlu abniała,
Čutny zwon kaścielny naŭkoła —
Hramadka siałanaŭ malicca pryšła
Da blizkaha ŭ wioscy kaścioła.

U kaściołku ŭbohim aŭtar zihacić
Światłom mihatliwym ad świečak;
Dymok z kadzialnicy ŭ nieba łacić,
Moŭ dymok siwieńkich awiečak.

U manstrancyi jasnaj białejecca chleb,
A ŭ im Spas naš Jezus ukryty
Hatoŭ prychilicca da našych patreb,
Da prośbaŭ wiaskowaje świty.

Z pakoraj u sercy, z pahodnym čałom,
Pryklenčyŭšy ksiondz prad aŭtaram
Ražaniec haworyć cichim hałaskom,
Z pabožnym, razjaśnienym twaram.

Ludcy na kaleńniach ŭ razmysłach światych
Paciorki ŭ śled admaŭlajuć,
Čuwać pamiž imi haračy ŭzdych,
I ŭschlipy, jak śłoz nia ŭstrymajuć.

Da Matańki Božaj jenk skarhi papłyŭ
U mołbach, adbiŭšysia recham,
A ŭ sercy zbalełym učućciaŭ pryliŭ
Bol hoić, sałodzić paciechaj...

Apošnija słowy malitwy światoj
Ucichli; nia čutna arhanu,
Ni pieśni śpiawanaj usiej hramadoj:
Lud čeść daje Jezusu Panu.

Žałosna zwanočak ściška zazwaniŭ,
Ludcy chilać nizieńka twary...
Ksiandzok Najświaciejšym pabahasławiŭ,
I Boha schawaŭ u aŭtary.

Piajuć pachwalony chaj budzie ad nas
Pawiek Najświaciejšy Sakramant,
Ciapier i zaŭsiody: u Im Boh naš i Spas
Daje Cieła-Kroŭ na traktamant.

Skrapiŭšysia borzda świačonaj wadoj,
Ludcy ŭžo wychodziać z kaścioła.
I cicha da chaty iduć hramadoj
Pad stražaj Rafała anioła.

A Božaja Maci ŭ Ražancy Światym
Udzielić im z nieba padmohi:
U dušach zaświecić światłom załaťym,
Jany nie sabjucca z darohi.

## U POŚCIE.

Raspačaŭsia post wialiki —
Kajsia Ewina siamja;
Chaj pakutnyja uskliki
Ŭčuje wiečny naš Sudździa!
Stanawisia na kaleńni,
Uzdymaj dałoni ŭwyś,
I z hrachoŭ swajo sumleńnie
Ačyščaj, ŭziraj na kryž.
Hlań—ciarniowuju karonu
Chrystus na hałoŭ ŭzłažyŭ
I maliŭsia až da skonu,
Kab z nas kožan wiečna žyŭ.
Jon katoŭskija tartury
Ciarpialiwa pieranios
U ludzkoj swajej natury
Biez uzdychaŭ, złości, śloz;
I apošnija hadziny
Boha horača prasiŭ,
Kab ciažkija našy winy
Miłaserna adpuściŭ.
Spawiadajsia-ž u pakory,
Chryścijanski wierny lud!

Jdzi pad kryž u ciažkim hory
I ślażmi zmywaj swoj błud.
Jezu Chryste, Boža miły,
Ty za nas usich ciarpieŭ!
Udziali nam słabym siły,
Złahadzi Ajcoŭski hnieŭ.
Praz Twaje ciažkija rany
I krywawy ŭ młości pot,
Jezu, Boža naš kachany,
Daj ŭsim hrešnym nawarot.
U krywi swajej hrachi im
Z žalem ščyrym daj abmyć;
A tady my ich prychilim
Bohu wierna tut služyć.
Kab pa śmierci sa światymi
Wychwalać Ciabie, o Spas,
Moh na wieki razam z imi
I z aniołami ŭsiak z nas.

## HOŁAS KRYŽA.

Spakojsia duch, strywožany niahodaj,
Strymaj nudliwyja parywy žalu;
Zirni na kryž, adwiečnych praŭd skryžalu
I klič pačuj adtul: „Ty mnie žyćcio daj!"

Žyćcio daj mnie miž bolu i ciarpieńniaŭ;
Achwotna jdzi ciarnistaju ściažynaj
Da mety tej apošniaj i adzinaj,
Za hołasam usich ludzkich sumleńniaŭ.

Ciarpi, trywaj, złydniu nie paddawajsia,
Z pakusaj u boj adważna jdzi;
Spakojna ŭ dal žyćcia hladzi,
Za płuh uziaŭšysia, nazad nie azirajsia.

Ary, karčuj dziarwan duchowaj niwy,
Padatny hrunt dla Łaski ŭrablaj:
Jana ŭzraście — nadziei nia hublaj; —
Pracuj ty z joj i budzieš wiek ščaśliwy.

A ščaście hetaje nia končycca z taboju,
Jano pradoŭžycca za hrobam,—tam,
Dzie za trudy i hora dašć Boh nam
Siabie ŭwidzieć u wiečnym supakoju.

Dyk proč trywoha, sum! U spakoju i wiasielli
Dla ščaścia duš tut treba pracawać,
Z tuhoj i złom adważna wajawać,
Aż da kanca, pakul duša u ciele.

## ALLELUJA!

Dzień wialiki nastaŭ:
Chrystus Boh uwaskres —
Ustawaj, chto zaspaŭ,
Kab na wieki nia ščez.

Radašć hetuju nam
Abwiaščajučy, zwon
Ljecca, kocicca tam,
Dzie ludzki jošć pryhon.

Abudżajecca ŭsio
Ad zimowaha snu
I z wiasiellem życcio
Jznoŭ witaje wiasnu.

Liściem krasicca sad,
Muraŭcom sienażać
I Alleluja rad
Kożyn wierny piajać.

Drozd i špak na ŭwieś les
Trel wywodziać swaju —
Chrystus Boh uwaskres,
Češć i chwała Jamu!

Usio raście bolš trawa,
Zielanieje bor,
Woś żywiołu z chlawa
Wyhaniajuć na dwor.

Ryk wałowy naŭkruh
Čuć dajecca; u hary
Wyś świdruje žaŭruk
Z pieśniaj rańniaj zary.

Matylkoŭ cełу roj
Ŭ jasnym dziennym światle
Zakniželi, moŭ z wadoj
Šum i piena ŭ katle.

Pozna ŭ wiečar turčak
Až pad poŭnač turčyć;
Kamary taŭkuć mak,
Žuk dubowy hudzić.

Usio ŭ pryrodzie žywie,
Pje wiasielle žyćcia
I kazaŭ-by zawie
Nas, jak maci dzicia.

Tolki ty, čaławiek,
Addaješsia žurbie,
Ciažki čujučy ždziek
Ad druhich na sabie.

Kiń žuryccca, žywi
Tej nadziejaj światoj,
Što nia wiek świakryni
Papichać siratoj.

Chrystus Boh uwaskres —
Uwaskreśnieš i ty:
Usiamu pryjdzie kres—
Wyjdzie świet z ciemnaty.

Woś Alleluja piej,
U ciarpieńni trywaj,
A ŭ dušy wiesialej
Budzie, wysłužyš raj.

## MALITWA
### Da M. B. Wostrabramskaj.

O Maci Božaja, što ŭ słaŭnaj Wostaj Bramie,
Jak zorka jasnaja, nam świeciš zaŭsiady,
Nam, što atrymali pa praščuru Adamie,
U adwiečnaj spadčynie ździek, hora i biady.

K Tabie pračystaja lileja ŭdzień i ŭnočy
Ŭzirajuć našyja zapłakanyja wočy.
Matuchna Božaja, pakryŭdžanych Uciečka.
K Tabie my jdziom z pakornaju malboj:
Uprasi nam zhodu, chaj zahinie swarka, sprečka,
Wyklikana narodnych praŭ dzialboj.

K Tabie, Zastupnica, my ŭzdych swoj u pakory
Šlom: barani Ty nas ŭ narodnym ciažkim hory.
O Maci miłaści pryhožaje, paznańnia
I Bohabojnaści, Krynica praŭd i cnot!
K Tabie my hrešnyja ŭ čas proby i zahnańnia
Niasiom učućciaŭ zwoj i myśli našych splot.

Prymi, Łaskawaja, ad nas harotnych dary,
Što tut kładziom pry Bramie na aŭtary.
O Miłasernaja, paŭniusieńkaja łaskaŭ,
O Maci našaja! U trywožny hety čas,
Kali praz ciemru ledź bliščyć łuč nowych blaskaŭ
Siarod zmahańnia z złom, nia kiń biazsilnych nas!

K Tabie my hrešnyja, biazdolnyja ŭsklikajem,
Ratunku, pomačy Twajej usie čakajem.
Pačuj naš płač na hetym śloz padole,
U zmahańni z złom ahulnym pamažy.
Chaj zhinie ŭžo hrachu, pahard niawola,
Ty ściežku miłaści ŭsim nam pakažy.

Nia wypuščaj nas z Matčynaj Apieki
Swajej ciapier, zaŭsiody i na wieki.

* * *

Choć wiecier bušuje,
Choć bura rawie,
U čoŭni siadžu ja,
Jon cicha pływie.
Siadžu, styr trymaju.
Siaku wody fal,
Pływu, spaziraju
U tumannuju dal.
Štoraz, to ŭsio bližaj
Da mety światoj:
Pad ściaham woś kryža
Pływie čowien moj.

## PAŚWIATA.

Biełarusy, wam bratočki,
Z serca achwiaruju
Hetych wieršykaŭ radočki,
Dań swaju małuju.

Rada chata, čym bahata.
Woś i ja, čym maju,
Tym daru was, daść Boh świata,
Bolej naśpiawaju.

Luby mnie kutok radzimy,
Biełaruś świataja:
Tut radzilisia, raśli my,
Usio nas tut witaje.

Luba rodnaja haworka,
Dušam našym świta,
Z joj, ci soładka, ci horka,
My žywiom i kwita.

Luby rodnyja apratki,
Norawy i zwyčka,
Pieśni, kazki i zahadki,
Lub naš rod mužycki.

Woś hardžusia hetym rodam,
Nie chaču druhoha,
Bo jon złučany z narodam
Kraju darahoha.

Dyk pasłuchaj-ža, bratočak,
Hetakaj woś rady:
Palubi ty swoj kutočak,
Mowu, stroj, abrady.

A Stwaryciel naš łaskawy,
Što wačej nia zwodzić
Z nas, ubačyć twaje sprawy,
U stokrot naharodzić.

## PIEŚNIA BIEŁARUSI.

Boža, što kališ narody,
Na asobki padzialiŭ
I chacieŭ, kab narod kožny
Mowaj rodnaj hawaryŭ.

Uzhlań-ža na narod biazdolny,
Biełaruski, što k Tabie
Hołas cichi, padniawolny
U pakornaj šle małbie.

Aświaci naš rozum wieraj,
Lhi nadzieju ŭ dušu ŭli
I ahoń lubowi ščyraj
Ŭ sercach zimnych zapali.

Daj, kab zierniatka prabudy
Zalaciela ŭ kožny kut
Biełarusi, kab usiudy
Uzyšło — i tam, i tut.

Kab runieła, wypływała,
Krasawała, naliło,
I, naśpieŭšy, ŭ tok niamała
Umałotu pryniasło.

Pamažy nam, Boža miły,
Prabudzicca da žyćcia;
Udziali parady, siły,
Kab nia źbilisia z pućcia.

Dyk žywi-ž Ty i krasujsia,
Naša Maci — Biełaruś!
Da krajoŭ čužych raŭnujsia;
Jści dziaciej k tabie prymuś!

Chaj biarucca da raboty
Dom narodny budawać
I bahaciacca u cnoty,
Kab paśla im Raj dastać.

## NIKOLI.

Nad honar i sławu, nad čary kachańnia
Narodnuju sprawu i pierakanańnie,
Što rozum dychtuje zaŭsiody ja wolu —
Nia zdradžu nikoli.
Chaj chmara pawiśnie nad sonnaj ziamloju,
Chaj hora pryciśnie žaleznaj rukoju,
Ja rodnaje mowy nia kinu ŭ niadoli—
Nia zdradžu nikoli.
Bušuje chaj bura, wichor chaj złujecca,
Chaj wiecier panura zawyje na rečcy,
Ja rodnaha kraju, što rwiecca da woli —
Nia zdradžu nikoli.
Chaj hrom z piarunami hrymić i stralaje,
Małanka ahniami chaj bliskaje, źjaje,
Swajho ja narodu biaz chleba i woli—
Nia zdradžu nikoli. —
Chaj srebra, dukaty mnie sypiać pad nohi
I skažuć: bahaty budź, kiń rod ubohi,
Ja plunu z pahardaj, narodu-ž i woli—
Nia zdradžu nikoli.
Da samaha skonu, usiakim prymusam
I sile pryhonu skažu: Biełarusam
Na wiek astanusia, swajej ŭłasnaj woli—
Nia zdradžu nikoli.

## BIEŁARUŚ.

Jość słoŭca cennaje ŭsim i znamianita,
Što wymaŭlajecca z pašanaj dzicianiom,
U jakim paniaćcie Baćkaŭščyny skryta,—
To Biełaruś, to kraj, dzie my zdaŭna žywiom.

Staronka miłaja, Ty mnohimi zabyta,
Šmat śpić synoŭ Twaich adwiečnym snom!
Ziamielka rodnaja, ślażmi i potam żlita,
My da žyćcia z Taboju znoŭ uwaskrasiom.

Choć znojdziecca ŭ Tabie wyrodny wałakita,
Katoramu Twaja nie da spadoby świta,
I nie adzin pradaść Ciabie Iskaryjot,
Ale Tabie jašče ŭsio-ž, Maci siemianita,
Sialanie wiernyja, što siejuć žyta, —
A z ich paŭstanie Twoj narod.

## LIRNIK.

Tolki wočy pracior, —
Dzień, zajaśniŭsia uschod,
Wałačecca u dwor
Biedny lirnik z warot.
Kab darohu znajšci,
Jon ci ŭnočy, ci ŭdzień,
Kijem bje pa puci,
Bo ślapy, jak toj pień.
Padyšoŭ pad pakoj,
Liru z pleč chudych źniaŭ
I niaśmiełaj rukoj
Cicha stroić pačaŭ.
Pośle ŭ dźwiery stuknuŭ
Zlohka kijem raz znoŭ,
Kab lakaj choć pačuŭ,
Ci chtokolak z panoŭ.
Doŭha spali pany,
Nia budziŭ ich lakaj;
A ty dzied niawisny,
Chwilu jšče pačakaj.
Tolki pani adna,
Niejk pačuła toj hruk,
I cikawa z wakna
Spazirnuła ŭwakruh.
Widzić — lirnik siadzić
Z liraj kobzaj swajej,

I, kazaŭ-by, hladzić
Usio na klamku dźwiarej.
Woś na hanak swoj krok
Skirawała prytnom,
Kab pačuć, jak dziadok
Budzie hrać pad waknom.
Chwilak niekalki jon,
Jak i ŭpierad, maŭčaŭ —
I prabujučy ton,
Struny źlohka čapaŭ.
Urešcie ciažka ŭzdychnuŭ,
Wočy k niebu uźniaŭ,
Korbaj umach pawiarnuŭ,
Klawišy pierabraŭ.
Zadrymcieła struna,
Hłucha šurchnaŭ klawiš—
I pad ton bylina
Paliłasia u wyś.
Ad dušy usiaje
Sa ślazoju biadak
Ab minuŭšym piaje,
Kab pačuŭ z nas usiak.
I da pani tajej
Nadyšło bolš panoŭ,
I dwarowych ludziej
Słuchać liry i słoŭ.
Čarawała usich
Pieśnia—byl kabzara:
Rasčulaŭsia u ich
Kožny žychar dwara.
Pakraplaŭsia ŭ duchu,
Horki ŭspomniŭšy los —
I ślapniu — biedaku
Hroš jałmužniny nios.
. . . . . . . . . . . . . .
Končyŭ dzied bylinu,
Liru ŭźwiesiŭ iznoŭ,
I budzić z mary—snu
Lud wiaskowy pašoŭ...

## MAJA LIRA.

Na pakładzie ŭ świronku
Napatkaŭ ja lironku,
Što ŭkureŭšy lažała
I butwieć pačynała.
Woś abcioršy ad pleśni,
Daj-ža rodnyja pieśni
Zapiaju, zaihraju,
Kab u rodnieńkim kraju
Sa snu kožan pračchnuŭsia,
Moŭ aroł strapianuŭsia,
Na duchu adświažyŭsia
I ŭ žyćci adradziŭsia.
Nu dyk hraj maja lira!
Miła, žałasna, ščyra —
Ŭ wiosku, dwor, adnasielle
Lij świattło i wiasielle.
Hraj radzimaj staroncy
A pryhožaj wiasioncy,
Što jak zoračka jasna
K nam idzie doła ščasna.
Šmat karyści tut budzie,
Bo zusiul pryduć ludzi,
Kab pačuć z hetaj pieśni
Ab prychodzie pradwieśni.
Hraj-ža ŭ prostyja chaty,
U światlicy, u pałaty,
Kab była ščyraść ŭsiudy,
Znikła-b maska abłudy.
Kab žyćcio jšło ŭ narodzie
Ŭ praŭdzie, miłaści, zhodzie,
Kab bahaty ŭbohaj
Klasie jšoŭ-by z padmohaj.
Woś z adwahaju nowaj,
Kazkaj, pieśniaj, pramowaj,
Hraj-ža dalej wiasioła
Ŭsim ludcom nawakoła.

Parabkom hraj u chatu,
Što bahatšamu bratu
Ubirajuć pałetak
Dzieła žonki i dzietak.
Što ŭwieś wiek pry rabocie,
Ledź nia tonučy ŭ pocie,
Biazupynna harujuć
I swabody nia čujuć.
Paśpiašaj im z patołaj,
Kab nia płakali bolej —
U dušy-b wiesialeli,
I ŭ twary pramianieli.
Chaj-ža słuchajuć hetaj,
Pieśni rodnaj zapietaj,
Pasiadaŭšy na ławie,
Ni ŭwa śnie, ■ na jawie...
A ŭ paśledku ŭžo, lira,
Zaihraj jašče ščyra,
Kab ludcy nawakoła
Žyli ščasna, wiasioła.
Kab na świecie narody,
Dačakaŭšy swabody,
Boha znali, lubili —
I na Raj zasłužyli.

## MOJ ZAŚCIENAK.

Lublu swoj zaścienak,
Radzimy kutok:
Chacinu, prysienak,
Aboru i tok.
Tut ja ŭzhadawaŭsia,
Tut słuchaŭ baćkoŭ,
Tut z horam spaznaŭsia,
Tut dolu znajšoŭ.
Tut paświŭ ja husi,
Jak byŭ małyšom;
Załahu tut, musi,
I spać wiečnym snom.

Budź miłym zaŭsiody
Mnie, rodny zahon,
Spakoju, swabody
Twajej ja žadzion.
Było-b chaj bahaćcie
I honar, i češć:
Žyćcia ŭ čužoj chacie
Nia moh-by ja źnieść.
Wuhoł rodnaj chaty
Nia budu miniać
Na zamki, pałaty,
Kab tam panawać.
Ja ŭ hory radziŭsia,
Nia ŭ roskašy žyŭ:
Niaraz zamaryŭsia,
Jak žaŭ, ci kasiŭ.
Pradziedawaj mowaj
Zdaŭna hawaru:
Nia treba mnie nowaj,
Ja z joju pamru.
Dušy jana miła,
Niachaj-ža žywie,
Nijakaja siła,
Nas nie razarwie.
Bo mowa—dar Božy,
Adzieža dušy:
To skarb naš pryhožy,
Što świecić ŭ hłušy.
Dyk chaty i mowy,
Nia wyprusia ja,
A rozum zdarowy —
Apora maja.
Radzimy zaścienak,
Lublu ja dušoj:
Tačok, pryhumienak,
Kutok rodny moj.

—o—

## SŁOWA PRAŬDY

ab mowie i doli Biełarusa.

(Paświačaju biełaruskaj moładzi).

Ci Ty znaješ, moj bracie,
U jakoj žywieš chacie,
U siamiejcy, narodzie,
Ŭ kraju, dzienna świattło dzie
Pieršy raz Ty ubačyŭ,
Dzie Tabie Boh praznačyŭ
Žyć, bahacicca ŭ cnoty,
Ci Ty wiedaješ, chto Ty? —
Biełarusiaj zawiecca
Kraj, dzie ciažka žywiecca,
Kraj, „paŭnočna zachodny",
Ale ŭłasny twoj rodny.
Woś i Ty, što žyć rwieśsia,
Biełarusam zawieśsia.
Dyk-ža wiedaj ab losie
Prodkaŭ, jak im žyłosia.

I.

Nad Dniaprom, Niomnam, Sožaj,
Nad Dźwinoj — z woli Božaj,
Jak danosić padańnie,
Tut žyli ŭsie sławianie:
Krywičy, Radzimičy,
Šmat Dryŭlan, Dryhawičy.
Treba wiedać wašeci —
Adnaje mowy dzieci,
Adnaho i zwyčaju
Ŭsie byli ŭ hetym kraju,
Zakładali sialiby
Blizka rek, kab mieć ryby,
U lasoch i na poli,
Kab mieć źwiera dawoli,
Chleba, jahad i miodu.
Abažali pryrodu:

Nieba čcili, jak Boha
U asobie Swaroha
I jaho paławicu
Mać—Syruju Ziamlicu,
I dziaciej ich: Dažboha,
Sonca, wietry-Stryboha;
Piaruna — boha hromu,
Damawoha — u domu;
Lasuna, Ražanicu,
Wadzianoha, Dziawicu,
Što Rusałkaj u rečcy
Buryć fali, śmiajecca.
Nawat Wołas — boh skotu
Mieŭ u ich pašanotu;
Pry ahni na Kupałli
Ładu češć addawali:
Im dawalisia ŭ znaki
Upyry, Waŭkałaki...
Čary, załomy, uroki
Ŭpłyŭ tut mieli šyroki.
Upraŭlalisia wiečam;
Baranilisia miečam,
Dubinoj, dy siakieraj;
U świtcy biełaj ci šeraj
Samadzielnaj adziety,
Žyŭ prywietna lud hety.
Miž saboj ni swaryŭsia
I pawoli tak zžyŭsia,
Što syšoŭsia rod z rodam
I adnym staŭ narodam.
Žywučy tak, pamału
Jon krapčeŭ, ros i sławu
Zdabywaŭ miž čužymi,
Žmir trymajučy z imi.
Pad razumnym zahadam
Mienu wioŭ z Carahradam,
Bahacieŭ i ščaśliwy

Łuk nia hnuŭ z pad ciaciwy.
Mieŭ swaich wajawodaŭ,
Dyk i worahaŭ chodaŭ.
Mieŭ kniazioŭ na zahady,
Wieča-schodku, narady,
Ich sud mudry i prawy
Wioŭ krajowyja sprawy
Biaz suprečak i zwadak.
Panawaŭ skroś paradak,
Uzmacawany nowaj
Božaj wieraj Chrystowaj
Z Rymu i z Carahrada.
Užo Swaroha i Łada
Adrakłisia ŭ chryščeńni,
Praŭdy Božaj pramieńni
Aświacili lud kwoły:
Stali cerkwy, kaścioły,
Pry biazkroŭnaj achwiary
Nikli ŭroki i čary,
Prapadała i licha.
I žyłosia skroś cicha.
Tak było ŭ čas spakojny,
Ale woś stali wojny.

II.

Musiŭ jon baranicca,
Z złosnym woraham bicca.
I paroj nieščaśliwaj
Hnuŭsia łuk pad ciaciwaj,
Wypuskajučy strely;
Mieč bliščeŭ zaržawieły,
Zichacieli siakiery,
Ustaŭ narod poŭny wiery
I adwahi da boju
Z niespakojnaj Litwoju.
Mužna, chrabra zmahaŭsia,
Ale ŭreščie paddaŭsia
I zhubiŭ swaju ŭładu—

Da Litoŭskaha Ŭradu
Nas sudźba dałučyła.
Ale zhodna i miła
Stali žyć dwa narody.
Ich kniazi. dziela ŭhody
Našu mowu zrabili
Dworskaj, joj hawaryli,
U joj zakony pisali
I sudy adbywali.
Słaŭny Statut Litoŭski
I parhamin kniazioŭski
Až dahetul jość świedkam,
Jak było našym predkam.
Knižki roznaha źmiestu
Słužać znakam pratestu
Pahałoskam falšywym,
Našaj mowie hnuśliwym.
Dyk ćwiła naša mowa.
Drukawanaje słowa
Ŭ joj liłosia, šyreła,
I što raz bahacieła.
Ale woś nastupaje
Strym i mowa žywaja,
Što była ŭ pašanie,
Na druhim stała planie.

III.

Kniaź Jahajła z Jadwihaj
Ažaniŭsia i lihaj
Hetaj kniažaha rodu
Źwiaź nakinuŭ narodu,
Što trywaŭ niezaležna.
Polšč z Litwoju sumiežna
Pad Jahajły zahadam
Abjadnałasia Uradam.
Woś Litwa choć i mieła
Swajho kniazia, maleła
Tut adnak jaje ŭłada

